# ПАГОНЯ



РЭГІЯНАЛЬНЫ АГЛЯД: ГОРАДНЯ — ВІЛЬНЯ — БЕЛАСТОК

ЗАСНАВАНА Ў 1920 г.

№ 40 (54) 17—23 сьнежня 1993 года Кошт 50 рублёў


**БІЗНЭС НЕ ВАЮЕ,** абароняць камэрсанта толькі новыя выбары у парлямэнт.

**ШКОЛА ГЭАТАЛІТЫКІ.** Ці акупяцца «Інвэстыцыі» у чыгуначную станцыю Адуцішкі?

На чужыне добра, але часам на сэрцы туга. **СПОВЕДЗЬ АНТЫКАМУНІСТА.**

**ПРАГРАМА ТЭЛЕБАЧАНЬНЯ** на тыдзень: Менск — Варшава — Масква.

# З ЛЕТУВЫ ВЕСТКІ З ПОЛЬШЧЫ

**ПІЛЬНАСЬЦЬ.** У Летуве пільна сочаць за падзеямі ў Беларусі. Днямі Летувіскае Тэлеграфнае Агенцтва распаўсюдзіла наступную інфармацыю: «Сход афіцэраў Беларусі запатрабаваў перадаць Беларусі сталіцу Летувы Вільнюс. Удзельнікі зьезду афіцэраў, што адбыўся ў Менску, заклікалі сусьветнае супольніцтва «зьвярнуць увагу на віленскае пытаньне — гістарычнае і прававое непаразуменьне, з-за якога старажытны эўрапэйскі народ страціў сваю гістрычную сталіцу».

У звароце, паміж іншым, сьцьвярджаецца, што «прайшло больш 50 гадоў, як у выніку злачыннага зговару Сталіна і Гітлера Вільня была перададзена жэмайційцам, каторых толькі ў канцы мінулага стагоддзя назвалі літоўцамі». Далей у звароце гаворыцца, што пасьля таго, як пакт Рыбентропа — Молатава страціў сілу, Летува пазбавілася права на Вільню».

Старшыня схода афіцэраў Мікалай Статкевіч заявіў, карэспандэнту БНФ, што «ў звароце не выстаўляюцца тэрытарыяльныя прэтэнзіі Летуве, а патрабаваньні беларусаў аналягічныя тым, якія Расея выстаўляе Латвіі і Эстоніі».

Наогул, не зразумела, пра якую арганізацыю гаворыцца: ці пра «Союз офицеров Белоруссии», ці пра Згуртаваньне беларускіх вайскоўцаў начале са Статкевічам. Добра быць пільным, але найперш трэба быць дакладным.

**РУПЛІВАСЬЦЬ.** Летувіскі навукова-дасьледчы інстытут буданіцтва й архітэктуры падрыхтаваў канцэпцыю гісторыка-нацыянальнага парку ў Троках, дзе на астравах пасярод маляўнічых азёраў захаваўся і рэстаўруецца замак часоў Вялікага Княства Літоўскага — рэзыдэнцыя вялікіх князёў. Акрамя таго ў саміх Троках захаваліся фарны касьцёл, караімская кінаса і праваслаўная царква. Урад рэспублікі прыняў пастанову, якая згадвае абмежаваць гаспадарчую дзейнасьць на тэрыторыі парку.

**ШТО ПА ЧЫМ!** Дзяржаўная служба цэнаў і канкурэнцыі апублікавала зьвесткі пра мінімальныя й максімальныя цэны на разнастайныя тавары ды паслугі ў розных месцах Летувы.

Вось некаторыя з іх: чорны хлеб — за кілю 0,52—0, 86 літа, кілбаса варaная 1-га гатунку — 5,10—8,90 літа, сьмятана — 2,12—3,72 літа, бульба — 0,12—0,28 літа, цукар — 2,26—2,28 літа, гарэлка — 4,95—5,38 літа. Арэнда дзяржаўнае кватэры каштуе 0,03—0,21 літа за мэтр квадратны, прыватызаванае кватэры — 0,02—0,11 літа, ацяпленьне кватэры — 0,15—0,53 літа за мэтр. Літар бэнзіну А-76 каштуе 0,78—1,13 літа, А-92—0,90—1,15. Квіток на гарадзкі аўтобус — 0,06—0,20.

На заканчэньне даем кошт некаторых рытуальных паслугаў — выкапаць яму на могілках каштуе — 9,70—44 літа, труна з хвойных дошак — 54—130 літаў.

**КУРС ВАЛЮТЫ:** Даляр ЗША скупаюць па 3,90 літа, прадаюць за 4. Нямецкую марку скупаюць за 2,25 літа — прадаюць за 2,35.

**ПЛЯШКІ.** Ужо год, як віленчукі ня могуць здаць слоічкі з-пад маянэзу, бутэлькі з-пад поснага масла, ды й звычайныя пляшкі здаць — вялікая праблема. Паводле словаў дырэктаркі дзяржаўнага прадпрыемства Віленскай шклотары спадарыні Пярэднене, раней з Летувы выводзілі 2 млн. пляшак штогод. Сёньня ўся тара застаецца ў рэспубліцы, і пункты прыёма шклотары паралізаваныя. Прамысловым прадпрыемствам таней абыходзіцца купляць новыя пляшкі — напрыклад, пляшка для гарэлкі каштуе 31 цэнт, а скарыстаная 33 цэнты.

С. В.

Жанчынай Эўропы 1993 г. стала полька Яніна Ахойска. З гэтае нагоды яна паведаміла журналістам, што вельмі ўражана і задаволена сваім новым тытулам, і дадала, што ў далейшым гэта званьне будзе вельмі спрыяць у яе дзейнасьці, асабліва ў чарговай паездцы ў Югаславію з гуманітарнай дапамогай.

■

Сейм Польшчы заявіў аб зьменах у сістэме фінансаваньня народнай адукацыі. На яго думку, фундацыяй школ павінны займацца гміны. Гэты пераход павінен адбыцца за два гады. Дагэтуль гміны атрымлівалі грошы ў якасьці супсыдый і самі імі распараджаліся, цяпер яны будуць гэтыя грошы мець толькі ў якасьці датацый і толькі для канкрэтных школ.

■

Прэм 'ер міністр Польшчы, выступаючы перад шахцёрамі ў дзень іх прафэсійнага сьвята, сказаў, што нельга зачыняць шахты, нічога не даўшы шахцёрам узамен. Інакш кажучы, прэм 'ер запэўніў шахцёраў, што яны не застануцца без працы, а Сьлёнзк без будучыні.

■

202 дэпутаты Сейма Польшчы падпісалі праэкт, які павінен зьмякчыць закон аб забароне абортаў. На думку групы дэпутатаў-жанчын, аборты павінны быць дазволены ня толькі ў выпадках, калі роды пагражаюць здароўю маці, калі цяжарнасьць ёсьць вынікам згвалтаваньня, калі дзіця можа нарадзіцца калекай, але і тады, калі жанчына не мае належных умоў для выхаваньня дзіцяці. Дэпутаткі выказаліся за тое, каб была магчымасьць праводзіць апэрацыі як у дзяржаўных шпіталях, так і прыватных.

Дзіўна, што каля 20 дэпутатаў, якія падпісаліся пад праэктам, урэшце адумаліся і адмовіліся ад сваіх подпісаў, матывуючы гэта тым, што адразу не зарыентаваліся.

■

Як паведамілі польскія газэты, у будучым годзе з падаткаў кожнага паляка 31 тысяча злотых пойдзе на ўтрыманьне Сейму і дэпутатаў. Але, як заўважыў адзін з журналістаў, ні такія дробныя грошы дражняць звычайнага чалавека, а тое, што укладваюцца яны без усякай надзеі на прыбытак.

**По матэрыялах друку падрыхтаваў М. МІКАЛАЙЧЫК.**

# МЭМАРАНДУМ

## АПАЗІЦЫІ БНФ І ДЭМАКРАТЫЧНЫХ ДЭПУТАТАЎ ВЯРХОЎНАГА САВЕТА АБ СІСТЭМЕ ЎЛАДЫ БЕЛАРУСІ

Дачыненьні да сістэмы ўлады ў Беларусі выказаныя ў Праграме БНФ прынятай на III зьезьдзе БНФ 30 травеня 1993 г., у заявах і паведамленьнях дэпутацкай Апазіцыі БНФ у Вярхоўным Савеце, зробленых на працягу 1990—1993 г.г. Нашы адносіны да дзяржаўнага ўладкаваньня застаюцца нязьменнымі:

— Беларусь парламэнцкая рэспубліка, у якой можа быць прэзідэнт, які зьяўляецца кіраўніком дзяржавы, выбіраецца ўсім народам, мае права пры вызначаных законам умовах распусціць парлямэнт і сёньняшнія нядзеяздольныя саветы, прызначыць новыя выбары прадстаўнічай улады. Аднак гэты прэзідэнт не зьяўляецца кіраўніком выканаўчай улады;

— выбары такога прэзідэнта магчымыя не раней як праз шэсьць месяцаў пасьля выбраньня новага прафэсійнага парлямэнта і сфармаваньня новага ўраду;

— першымі крокамі да выхаду з палітычнага крызісу і эканамічнага тупіка можа стаць адстаўка цяперашняга Савета Міністраў і стварэньне пераходнага ўраду;

— другім крокам — прыняцьце папраўак да Канстытуцыі, альбо прыняцьце новай Канстытуцыі і правядзеньне нечарговых выбараў у парлямэнт, які будзе працаваць на прафэсійнай аснове;

— павінна быць паэтапна ліквідаваная сістэма Саветаў яе разбуральная нядзеяздольная структура ўлады і заменена муніцыпальнай сістэмай. Выбары кіраўнікоў мясцовых органаў улады павінны ажыцьцяўляцца ўсім народам і адбывацца адначасова з выбарамі прэзідэнта;

— павінны быць ліквідаваныя вобласьці і створана двухступенная сістэма адміністрацыйнага падзелу.

Мы асабліва падкрэсьліваем, што без адстаўкі цяперашняга збанкрутаванага ўраду выхад з палітычнага і эканамічнага крызісу немагчымы. Нельга каб урад, які разбурыў эканоміку, аддаў краіну на разрабаваньне, паставіў пад пагрозу яе сувэрэнітэт і які да таго ж валодае велізарным лобі ў Вярхоўным Савеце, застаўся надалей, каб ён рыхтаваў і праводзіў выбары (прэзідэнта, парлямэнту, мясцовых органаў улады) і такім чынам зноў забясьпечыў перавагу скампраментаваўшай сябе намэнклятуры.

**Народныя дэпутаты Беларусі:**

**З. Пазьняк, У. Заблоцкі, Л. Зданевіч, А. Трусаў, Ю. Беленькі, М. Крыжаноўскі, Л. Дзейка, В. Аляміеў, Б. Гюнтар, В. Какоўка, І. Германчук, С. Антончык, В. Голубеў, Я. Цумараў, С. Папкоў, А. Шут, П. Холад, Г. Грушавы, С. Слабчанка, П. Драган, І. Сямашка (супраць любога прэзідэнта), А. Спіглазаў, С. Навумчык, А. Паруль, Я. Глушкевіч, В. Даўгалёў, А. Янец, М. Маркевіч, М. Аксаміт, Г. Сямдзянава, Л. Баршчэўскі, І. Герасюк, М. Мацюшонак, У. Сапронаў, І. Лапаухаў, М. Калбаска, М. Сукач, Р. Вячэрскі, І. Пырх, Л. Сечка, А. Сасноў, В. Сярдзюк, В. Радамысьльскі, А. Кузьма, А. Шаўнін, В. Уласенка, А. Барысенка, Н. Салдатава, Л. Зьвераў, А. Даўлюд, А. Волкаў, А. Лятко, Э. Багаўцоў, Я. Бядулін, У. Лазарэвіч, Р. Плоцкі, А. Кічкайла, У. Шаўцоў, Л. Тарасенка, М. Сьлямнёў, І. Палагеча, Б. Савіцкі, Я. Новікаў.**

# Створана вабласная рада БНФ

11 сьнежня ў Горадні адбылася вабласная канфэрэнцыя БНФ, на якой разгледжана роля рэгіянальных Радаў у эканамічным ды палітычным жыцьці. Абрана каардынацыйная Рада з 11 чалавек, якую ўзначаліў спадар Баўсюк. Утворана таксама вабласная каардынацыйная Рада партыі БНФ. Арганізацыі Фронта існуюць у палове раёнаў Гарадзеншчыны. На канфэрэнцыях абмеркаваны шляхі стварэньня суполак БНФ ва ўсіх астатніх раёнах. Наступную канфэрэнцыю вырашана правесьці ў Лідзе.

Удзельнікі прынялі два звароты. У адным з іх гарадзкія ўлады, кіраўніцтва УУС заклікаюцца ўзмацніць у Горадні ахову парадка. Другую, якая датычыць патрабаваньняў прафсаюзаў, мы публікуем ніжэй.

П. Г.

# С. Домаш сустрэўся з журналістамі

Пасьля абраньня новага старшыні аблвыканкаму тут створана прэсслужба, якую ўзначаліў сп. Ул. Амелька. Цяпер штомесяц будуць у першую сераду зьбірацца прэсканфэрэнцыі. Першая адбылася 8 сьнежня. На яе былі запрошаны прадстаўнікі ўсіх сродкаў масавай інфармацыі, якія існуюць у вобласьці.

Старшыня аблвыканкаму сп. С. Домаш сьцісла акрэсьліў сацыяльна-эканамічнае становішча вобласьці, адказаў на пытаньні журналістаў. Гаворка вялася пераважна на беларускай мове, якой не карысталіся толькі некалькі чыноўнікаў, у кампэтэнцыі якіх былі адказы на некаторыя пытаньні.

Усіх, што натуральна, цікавілі посьпехі сьледства па справах забойства былога старшыні аблвыканкама Д. Арцымені. Аказваецца, што дапытана ўжо паўтысячы сьведкаў. Шмат ужо што вядома, але з журналістамі па традыцыі сакрэтамі дзяліцца ня сталі. Адно паведамілі, што славуты жоўты фосфар са станцыі Сьвіслач прададзены й нябожчык ня меў да яго аніякага дачыненьня.

С. А.

# ГРАМАДЗТВА

## Нас уратуюць новыя выбары ў парлямэнт

**Калі гляджу на асартымэнт тавару ў камэрцыйных шапіках, то думаю, што некалі, ў час разьвітога сацыялізму, гэткія дэлікатэсы большасьці з нас не зьяўляліся нават у сьне.**

**Пра крыніцы набыцьця дэфіцытнага тавару распавядае ДЫРЭКТАР ЗЬНЕШНЕГАНДЛЁВАЙ ФІРМЫ «ВЕЛС» У. ЛОЙКА.**

— Першае, што жадаю сказаць, гэта тое, што з лёгкай рукі прэсы пераважная большасьць нашага грамадзтва думае аб камэрсантах, як аб махлярах, падманшчыках і прайдзісьветах. Але ж усё ня так. Па-першае, мы вельмі цяжка й многа працуем. Па-другое, дзякуючы нашым высілкам тыя, хто ганьбіць нас, адчулі па-сапраўднаму смак сьнікерса, марса й многага іншага. Вазьміце, напрыклад, маю фірму. Мы займаемся зьнешнегандлёвай дзейнасьцю. Купляем у прадпрыемстваў калійныя ўгнаеньні, прадаем іх у краіны Карыбскага басэйну. На выручку наўзамен вязем на Беларусь каву, віно, шакалад, дываны, боты, вопратку й многае іншае.

**— У вас для рэалізацыі ёсьць свая крама?**

— На жаль, крамы пакуль што мы ня маем. Рэалізуем свой набытак праз рэклямныя выдавецтвы ў большасьці дзяржаўным прадпрыемствам гандлю пад працэнты. Вось і зараз маем у вялікай колькасьці каву, какаву, абутак, дываны. Ёсьць ужо пакупнікі, так што, як бачыце, мы нічога й ні ў кога не крадзем, а наадварот, напаўняем крамы неабходнымі народу таварамі. Іншая справа кошты, заробак і інфляцыя. Народ зьбяднеў і яму не стае сродкаў купіць дарагі замежны тавар. На гэтай хвалі ўсеагульнага зьбяднення многім падаецца, што той, хто працуе ў бізнэсе, шуфляй грабе грошы.

**— Сколькі ж тады сваім супрацоўнікам плаціць фірма «Вэлс»?**

— Ня шмат, прыкладна 100—130 тысячаў рублёў атрымлівае радавы работнік. Я атрымліваю на 30% болей. Праўда, за правядзеньне камэрцыйнай зьдзелкі таму, хто яе з'арганізаваў, плацім 4% ад прыбытку.

**— З кім вам лацьвей супрацоўнічаць, з тутэйшымі ці замежнымі партнёрамі?**

— Вы правільна згадалі пра партнёрства. Менавіта з замежнымі фірмамі мы працуем на партнёрскіх адносінах. Яны не імкнуцца зарабіць на зьдзелцы максімальны прыбытак. Пры перамовах саступаюць працэнт ці колькі. Айчынны камэрсант ці нават дзяржслужбовец з нейкім асабістым задавальненьнем нахабна жадае ўзяць адразу ўсё. Бывае так, што пасьля адной камэрцыйнай апэрацыі з такімі «партнёрамі» ня хочацца болей мець справу.

**— Хто з замежнікаў вам бліжэй, як бы мовіць, да супрацоўніцтва?**

— Вышэй я казаў, што нашы інтарэсы — гэта краіны Лацінскай Амэрыкі. Ёсьць партнёры і ў Эўропе. Тут найперш трэба сказаць пра суседнюю Польшчу. Менавіта супрацоўніцтва з адной Шчэцінскай фірмай і паклала пачатак нашым першым зьнешнегандлёвым справам. Зараз болей працуем з вэнграмі. Купляем у іх віно «Такай-фурніт», яно добра ідзе праз дзяржаўную гандлёвую сетку. Адзеньне набываем ў Нямеччыне. Танізуючыя напоі — ў Югаславіі.

**— Ваеныя дзеі не перашкаджаюць у супрацоўніцтве з гэтай краінай?**

— Бізнэс не ваюе, а наадварот, спрыяе, я б сказаў, прыязьні. Так што подых вайны — не перашкода для камэрцыі.

**— Як вам бачыца пэрспэктыва?**

— Цяжка сказаць, бо гэты нягеглы ўрад і падначалены яму дэпутацкі корпус усіх узроўняў ня здольныя паспрыяць прыватніку, тым болей абараніць яго. Таму, каб лепей бачыць пэрспэктыву, трэба дабіцца новых выбараў дэпутацкага корпусу ўсіх узроўняў. Толькі новыя выбары і абраныя пасьля іх дэпутаты-прафэсіяналы ўратуюць камэрсанта і створаць умовы для рэформаў.

**Распытваў Г. АСТРОЎСКІ.**

## На тэму пагранічча: ва ўсім вінаваты БНФ

З 1 сьнежня ў Беластоку распачаў сваю работу навуковы сэмінар на тэму «Пагранічча. Сацыялягічныя дасьледваньні». Паседжаньні праходзяць у інстытуце філязофіі й сацыялёгіі Філіяла Варшаўскага унівэрсітэта. Арганізатарам выступіў прафэсар Садоўскі з Беластоку.

Мэта сэмінару — як гаворыцца ў паведамленьні, што апублікавала газэта «Ніва» — выпрацаваць магчыма аб'ектыўныя веды наконт пагранічча, абмяняцца вопытам з дасьледваньняў і г. д.

Асаблівая ўвага адводзіцца ўсходняму пагранічча, яго спэцыфіцы, успрымаемай як польскім бокам, так і ўсходнімі суседзямі. Мяркуецца, што сэмінар пасадзейнічае станаўленьню новай сацыялягічнай субгаліны — сацыялёгіі пагранічча, а таксама паспрыяе распаўсюджваньню рацыянальных узораў грамадзкага сужыцьця на памежжы.

І ў заключэньне сваёй рэклямнай абвесткі прафэсар Садоўскі зазначае, што на сэмінары вынікі сваіх дасьледваньняў, роздумаў й высновы прадставяць вядомыя ў гэтай галіне спэцыялісты.

Ужо ў першы дзень сэмінару выступіў госьць з Беларусі, нехта прафэсар Спартак Польскі, загадчык лябараторыі этнічнай геаграфіі пэдагагічнага інстытута ў Менску. Тэма яго дакладу гучала так: «Перамены канфэсійнай структуры жыхароў РБ у 1970—93 г.г.» Працягвалася выступленьне каля дзьвюх гадзін.

Нешматлікія слухачы, большасьць якіх складалі тамтэйшыя беларусы, былі па-сапраўднаму зьдзіўлены. Бо замест таго, каб гаварыць па тэме свайго дакладу, прафэсар з РБ усю першую гадзіну пераканана даводзіў прысутным, які дрэнны БНФ і як ён хоча павыганяць расейцаў з Беларусі і адабраць у Летувы Вільню. А што датычыць тэмы свайго дакладу, то за дзьве гадзіны ён практычна нічога не сказаў, хіба што прывёў некалькі вядомых з прэсы зьвестак.

Сьціплыя беластоцкія слухачы пераглядваліся паміж сабой і нічога прафэсару з РБ не казалі, нават не імкнуліся задаваць пытаньні. Але тое, якімі дасьледваньнямі займаецца лябараторыя этнічнай геаграфіі пэдагагічнага інстытута ў Менску, напэўна, зразумелі ў Беластоку.

Цікава, аб чым будзе наступны даклад навукоўцаў з РБ? Можа, аб адзіна правільнай палітыцы ўрада РБ у пэрыяд з 1991-га да 1993-га гадоў, вядома, у дачыненьні да пагранічча.

**Ф. МАЛЕЦКАЯ.**

## Зьдзекі за хрысьціянскую веру

У сям'і, дзе я нарадзіўся, было 15 дзяцей. Усе мы былі людзьмі глыбокаверуючымі. Адпрацаваўшы ў полі ці на сенажаці, сям'ёй ішлі да сьвятога храму памаліцца. Нас, грэкакатолікаў, на Львоўшчыне было шмат. Бадай праз вёску быў грэкакаталіцкі прыход. Ліхалецьце Другой сусьветнай вайны ўсё перамяніла, перакруціла. Пераможная Савецкая ўлада пачала прыцiскаць грэкакатолікаў. Я добра памятаю, як ля нашага сьвятога храма па загаду мясцовых партыйцаў дзяжурылі настаўнікі й натавалі тых, хто не забыўся на сваю веру й прыйшоў паслухаць слова Божае. На ўроках дзяцей з веруючых сем'яў прыніжалі тыя самыя настаўнікі разнастайнымі кпінамі кшталт: «Ты сёньня не разьбіў лоб молячыся ці не забыўся, што ідзе пост», «А ты на вячэру й сьнеданьне жарэш трэфнае?». Часам, ня вытрымаўшы зьдзекаў, мы, дзеці, плакалі, не жадалі больш ісьці да школы. За свае ж памылкі настаўнікі, кіруючыся цыркулярамі партыі, абвінавачвалі бацькоў. З такімі сем'ямі, дзе дзеці адмаўляліся ісьці да савецкай школы, размаўлялі карныя ворганы, я б сказаў, занадта жорстка. У апошнюю чаргу выдзялялі надзелы пад бульбу, пад сенажаць. Пасылалі з вобыскамі міліцыянтаў, якія шукалі самагонку, збожжа. Калі й гэтага, на думку камуністых, было мала, то наяжджалі ўсялякія падатковыя агенты. Ім не было складаным знайсьці доказы, што тая ці іншая гаспадарка ня заплаціла падатак. Дзякуючы іх хадайніцтву, з хлявоў забіралі апошніх сьвіней, авечак, кароў. Бывала й так, што гаспадара сям'і саджалі ў турму. Але, каб па-сапраўднаму зьняважыць вернікаў-грэкакатолікаў, камуністыя распачалі гвалтоўна зачыняць Сьвятыя храмы. Асабліва цынічна выглядала перадача грэкакаталіцкіх цэркваў на патрэбы праваслаўнай дыяспары.Назьдзекваўшыся ўволю над Вуніяй, «будаўнікі» сьветлай будучыні і ўвогуле забаранілі яе дзейнасьць.

Зараз, калі праз дзесяткі год асэнсоўваю мінуўшчыну, прыходжу да высновы, што тыя, хто ў наш час, страціўшы ўладу і ўсялякую падтрымку ў народзе, пачынаюць разважаць аб справядлівасьці, ня маюць на гэта маральнага права, бо яны — нашчадкі дэмана, які праз ідэю камунізма зьдзейсьніў нявымяральны гвалт над намі, хрысьціянамі.

**В. СЕГІНЬ — грэкакатолік.**

## Няма куды кнігі несьці, каб было штосьці зьесьці

Адыйшоў той час, калі ўсюдыісныя кнігалюбы натоўпамі стаялі ля крамаў, чакаючы чарговага завоза літаратуры, каб набыць такі жаданы зборнік дэтэктываў альбо фантастыкі, калі квітнелі пункты кнігаабмена, а купіць кімсьці здадзеную ў скупку дэфіцытную кнігу было справай рэдкай ўдачы.

Зараз любы нававыдадзены бэстсэлер стаў даступным кожнаму, хто можа выкласьці за адзін том некалькі тысяч рублёў. Але такіх знаходзіцца ўсё меней і меней. Затое больш становіцца тых, хто нясе кнігі не з крамы дамоў, а наадварот. Людзі, што гадамі, а некаторыя дзесяцігоддзямі, руплiва зьбіралі асабістыя бібліятэкі, сёньня вельмі часта вымушаны прарэджваць іх, каб як-небудзь выправіць сямейны бюджэт, які дае ўсё большы крэн.

Цяпер у скупцы можна набыць практычна любую кнігу мінулых гадоў выданьня, але набываць няма каму. А так як тое, чым ужо завалены паліцы, не распрадаецца, то ўвогуле ніякую літаратуру не прымаюць у ніводнай кніжнай краме Горадні. І вымушана бабулька вяртацца дадому з той жа манішкай нікому не патрэбных кніг. А да пэнсіі яшчэ дажыць трэба. Але як?..

**М. Г.**

## Ужо й піва ня ўсім па кішэні

Днямі раз-пораз пачаў спыняць свае вытворчыя цэхі Гарадзенскі піўзавод.

«Прычына не ў адсутнасьці сыравіны ці іншых неабходных кампанентаў,— згадвае на запыт кар. «Пагоні» загадчыца вытворчасьцю завода спадарыня Л. В. Пастухова.— На заводзе ёсьць у поўным асартымэньце ўсё неабходнае. Але, на жаль, непамерны рост коштаў на сыравіну стварыў такую сытуацыю, што сёньня пляшка нашага піва у краме каштуе бадай 500 рублёў. Адпускны кошт на моцны напой «Адпачынак» — 1010 рублёў. Гэта не па кішэні большасьці пакупнікоў. Таму, каб хоць як разгрузіць перапоўненыя склады завода, й прыходзіцца часова спыняць той ці іншы цэх».

**Г. У.**

## Гарадзенскае КДБ рамантуецца

Як стала вядома, Гарадзенскае вабласное ўпраўленьне дзяржбясьпекі заключыла працоўнае пагадненьне на выкананьне будаўніча-рамонтных работ з адным МП Горадні.

Згодна гэтаму пагадненьню, МП павінна адрамантаваць калідоры й некалькі пакояў у галоўным будынку КДБ.

Дарэчы, усе рамонтныя працы абыдуцца КДБ прыкладна ў 1,5 мільёнаў рублёў.

## Вайсковыя боты гарадзенскай работы

Заказы Міністэрства абароны Беларусі пачало сёлета выконваць акцыянэрнае таварыства «Гроднаабутак». З канвеераў таварыства пачалі зыходзіць боты выключна для афіцэрскага складу Беларускага войска.

Дарэчы, паслугамі гарадзенскіх абутнікоў карыстаецца ня толькі Міністэрства абароны, адпаведныя захады зроблены й памежнікамі.

**Г. У.**

## Дзеля ўзнаўленьня Каложы

Мяркуецца, што 10 студзеня будучага году Горадню наведаюць гэнэральны й камэрцыйны дырэктар славутай французкай рэстаўрацыйнай фірмы «Браншон». Мэта іх візыту — на працягу тыдня на месцы азнаёміцца з Каложскай царквой і вывучыць магчымасьці гарадзенскіх рэстаўратараў па яе аднаўленьню. Французы абяцаюць бязплатныя кансультацыі й стажыроўку нашых спэцыялістаў, бо іх прафэсійная падрыхтоўка й навыкі пакуль не дазваляюць якасна аднавіць першапачатковы выгляд Каложы.

**А. Д.**

# *СУМЕЖЖА*

## *ШКОЛА ГЭАПАЛІТЫКІ*

# Ці акупяцца «інвестыцыі» у чыгуначную станцыю Адуцішкі?

**Кожны шукае сабе месца пад сонцам. Звыклая сцэна на пляжы: хтосьці бавіцца ў вясёлай кампаніі, хтосьці штурхае суседа лакцём, хтосьці дэманстратыўна адварочваецца адзін ад другога. Гэтак і цэлыя народы — хтосьці шукае кампанію, хтосьці адварочваецца.**

**Сёньня, калі незалежная Беларусь фармуе сваю гэапалітыку, цікава паглядзець, як гэта робяць іншыя краіны, ну хоць бы нашыя бліжэйшыя суседзі. Прапануем да ўважлівага прачытаньня пераклад артыкула з газэты «Летувос рытас».**

Пасьля ўзнаўленьня незалежнасьці Летувы адной з галоўных задачаў яе зьнешняе палітыкі стала ўрэгуляваньне адносінаў з бліжэйшымі суседзямі. З улікам той сытуацыі гэта было сапраўды нялёгка, тым ня менш было зроблена ня так ужо й мала.

Пасьля пераходу да ўлады ЛДПП канцэпцыя зьнешняе палітыкі стала перагледжацца. Папярэднікі былі абвінавачаны ў «стварэньні пудзіла» ды ідэалізацыі зьнешняе палітыкі — былі прапанаваны лёзунгі яе прагматызацыі і эканамізацыі, на падставе якіх павінны былі рэгулявацца й адносіны з бліжэйшымі суседзямі.

Наколькі пасьпяхова гэта атрымалася зрабіць?

... Цяперашняя ўлада магла б пахваліцца хіба што разьвіцьцём адносінаў з Беларусьсю, якія да гэтага часу практычна былі на нулю. Дыпляматычныя стасункі з гэтым бліжэйшым суседам былі ўсталяваныя адразу ж пасьля выбараў, а на сустрэчы прэм 'ераў Летувы й Беларусі 29 кастрычніка 1993 года былі вырашаны шмат якія пытаньні, што ўяўляліся праблематычнымі. Дасягнута дамоўленасьць, што чыгуначная станцыя Адуцішкі будзе належыць Летуве, а друскеніцкі санаторый «Беларусь» здаецца ў арэнду Беларусі на 99 гадоў.

Здавалася б, можна толькі пахваліць цяперашнюю ўладу і адначасова парадавацца ейнай здольнасьці шляхам перамоваў урэгуляваць адносіны з партнёрам, які нядаўна распасюдзіў у ААН заяву, дзе Вялікае Княства Літоўскае атаясамлялася з дзяржавай Беларусь.

Тым ня менш, ёсьць адна цікавая акалічнасьць. У той жа дзень (29 верасьня), калі прэм 'еры Летувы й Беларусі ў Вільні «абмянялі» чыгуначную станцыю на санаторый, у Нью-Йорку адбылося галасаваньне адносна новых нясталых членаў Рады Бясьпекі. Ад усходне-эўрапейскай групы прапаноўваліся два кандыдаты — Чэхія й Беларусь.

Чэхія атрымала 113 галасоў, Беларусь — 62. Паколькі дзеля таго, каб стаць членам Рады Бясьпекі, неабходна набраць дзьве трацiны галасоў (117), адбыўся другі тур галасаваньня. Першага Чэхіі на гэты раз была яшчэ большай — за яе падалі галасы 127 членаў ААН. Летува абодва разы галасавала за Беларусь...

Варта зьвярнуць увагу яшчэ на адну акалічнасьць. Вынікі галасаваньня былі практычна вядомы загадзя. З улікам гэтага можна сцьвярджаць, што Летува, аддаючы свой голас за Беларусь, імкнулася толькі прадэманстраваць сваю пазыцыю... Цяжка казаць адназначна, ці зьяўляецца гэта рашэньне аптымальным. Зыходзячы з патрэб дня сёньняшняга, такая пазыцыя Летувы, несумненна, садзейнічала ўрэгуляваньню адносінаў з Беларусьсю, набыцьцю чыгуначнай станцыі Адуцішкі й вяртаньню нам гэадэзічных картаграфічных матэрыялаў. Акрамя таго, прэм 'ер Беларусі паабяцаў на працягу месяца выплаціць доўг Летуве — 10 млн. даляраў ЗША.

Аднак, з другога боку, пазыцыю Летувы трэба ацэньваць з улікам пэрспэктывы. Чэхія (разам з Польшчай і Вугоршчынай), так бы мовіць,— авангард былога сацыялістычнага блёку. Гэтыя дзяржавы бліжэй за іншыя стаяць да асноўных структураў дэмакратычнага Заходняга сьвету (Эўрапэйскага Саюзу, НАТА, Заходнеэўрапэйскага Саюзу і інш.), і калі нехта з былога ўсходняга блёку стане членам гэтых арганізацыяў, то ўзгаданыя дзяржавы будуць сярод іх першымі. Як яны паглядзяць на Летуву, сёньня можна толькі меркаваць.

Нягледзячы на заўсёды дэкляруемую кіраўнікамі Летувы накіраванасьць ў Эўропу, 29 кастрычніка ў ААН Летува прадэманстравала ўсяму сьвету, што сёньня ёй усё яшчэ бліжэй Усход. Нэйтральны назіральнік, які нічога ня ведае аб адносінах Летувы й Беларусі, азнаёміўшыся з вынікамі галасаваньня, можа канстатаваць, што пазыцыя Летувы адрозьніваецца ад пазыцыі яе суседзяў — Латвіі, Эстоніі, Польшчы, якія галасавалі за Чэхію.

Яму застаецца толькі чакаць, ці настане той момант, калі Летува на справе, а не на словах паверне ў бок Захаду.

... Ці акупяцца інвестыцыі Летувы ў чыгуначную станцыю Адуцішкі і 5,6 га вакол яе, пакажа будучыня.

**В. С.**

# Прывід Пераяслаўя

Ад 'яжджаючы з Менску, вельмі хацелася зразумець: мэтрапаліт Філарэт праводзіць палітыку маскоўскага патрыярхату (Масквы), прыкладвае ўсе намаганьні, прынамсі, ў сфэры рэлігіі, як мага шчыльней далучыць Беларусь да Расеі ці такое адданае падпарадкаваньне маскоўскаму патрыярхату падкрэсьлівае своеасаблівую абаронную рэакцыю супраць экспансіі лацінскага (чытай: польскага) Касьцёлу ў Беларусі? Перад гэтым ў гутарках з Яго прэасьвяшчэнствам, каталіцкімі сьвятарамі, з міністрам Жыльскім я зразумеў, што праваслаўе, напэўна, адчувае сур 'ёзную пагрозу, паколькі так горача, чуць ці не дэманстратыўна, аб 'ядноўваецца. Гэта азначае, што кіраўнікі Касьцёлу, якія адказваюць за «экспансію ксяндзоў» на Беларусь, няшмат зразумелі з апошніх 400 гадоў польскай гісторыі. Альбо наадварот: ведаюць яе дасканала, а робяць па-свойму, не зважаючы на інтарэсы 40-мільённай Польшчы й 11-мільённай Беларусі.

Як мне здаецца, Польшча (нязьменна на працягу некалькіх стагоддзяў) адыгрывае падобную ролю ў стасунках да Усходу, як Францыя ў адносінах да нас. Нязьменна адвеку на гэты шанц накіраваны марныя ідэялягічныя імпэрскія мрояныя пэўных колаў палякаў альбо падобныя дзеяньні лацінскага Касьцёлу, які свае мэты імкнецца дасягнуць за наш кошт. Хацелася б, каб хто-небудзь паказаў тую карысьць, якую Рэч Паспалітая на працягу чатырох стагоддзяў атрымвала ад увядзеньня вуніі на Усходзе. Страты можа падлічыць нават звычайны вучань, які вывучае гісторыю гэтага рэгіёну Эўропы па праграме сярэдняй школы: уступленьне І Рэчы Паспалітай у войны з Казакамі, якія ваявалі і за абарону праваслаўя — канчаткова падарвалі дзяржаву эканамічна й палітычна, тым самым зрабілі яе безабароннай перад Швэцыяй, а затым і іншымі заваёўнікамі, вымушаючы экспансію каталіцызму, зварот Украіны ў кірунку Масквы ў XVII ст., умяшаньне Расеі ва ўсе польскія справы на працягу XVIII ст. пад прыкрыцьцём таго, што парушаюцца правы праваслаўных. Нарэшце XX стагоддзе: дзякуючы вуніі, украінцы здолелі захаваць сваю нацыянальную самасьвядомасьць, вярнуць ідэю адраджэньня самастойнай дзяржаўнасьці, але палякі заплацілі за гэта 100 тысячамі забітых на Падольлі, Валыні, а таксама 200 тысячамі памерлых ад голаду, зьнясіленых і параненых. Зараз можна паразважаць над тым, ці вунія ў XIX ст. на былых абшарах Рэчы Паспалітай першай прыняла на сябе націск русіфікацыі, ратуючы тым самым спрадвечныя польскія землі, хоць гэта не больш, чым тэарэтычныя развагі.

Падобна таму, як і пару гадоў назад на Украіне, цяпер у Беларусі лацінскі Касьцёл праводзіць сваю палітыку. Адвалочна рукамі палякаў — ксяндзоў, біскупаў. Не маю падстаў, каб давяраць тым фактам, якія мне прывёў мітрапаліт Філарэт (на 150 лацінскіх ксяндзоў толькі 26 беларусаў). Замест таго, каб паспрыяць навукова, культурна, маральна, палітычна, яны зьняважліва ставяцца да палітыкі новых дзяржаў, у якіх гэтыя праблемы асабліва адчувальныя. Не хацелася б, каб украінцы ці беларусы да старых польскіх грахоў дадавалі новыя, але хутчэй за ўсё прыбаваць: ксяндзоў з Мазамбіку, Ірляндыі ці Бразыліі не абвінаваціш у паланізацыі, бо іх за Бугам няма, хоць, магчыма, павінны былі там быць. Нельга абвінаваціць беларускі ўрад у тым, што ён дазволіў прыехаць у Беларусь 50-ці ксяндзам з Польшчы толькі ў адным годзе. Можа, гэта й замала паводле меркаваньняў польскага Касьцёлу, але ці недастаткова, калі браць пад увагу патрэбы палякаў, якія там жывуць.

Аж ня верыцца ў тое, як мала навучылі нас падзелы Рэчы Паспалітай, безгалова палітыка II Рэчы Паспалітай у адносінах да нацыянальных меншасьцяў. Хто ведае: калі б перад вайной замест таго, каб зачыняць украінскія й беларускія школы, высылаць на іх карнікаў вайсковых і паліцыйных, наадварот даць ім аўтаномію, далучыць да навукі, культуры, польскіх традыцый, ці пасьля вайны гэтыя народы ня сталі б сапраўдным буфэрам, які паставіў бы Польшчу ў бясьпечную зону накшталт Аўстрыі ці Фінляндыі? Адна справа загарнуць пад сябе дзяржаву, якая існуе толькі некалькі месяцаў, а іншае — з усімі яе структурамі, аб 'яднанай аўтаноміяй з іншай. Народы доўга памятаюць ня толькі крыўды, але й дабро — савецкая гэгемонія не была для балгараў нявыноснай, бо яны памяталі падзеі мінулага стагоддзя.

Дваццаць гадоў разумнай палітыкі перад вайной, асабліва ў адносінах да ўкраінцаў, маглі б цалкам зьмяніць вобраз акупацыі — Падольля ці Валыні ня стала б, бо ня ўзьнікла б такой патрэбы. Не было б таксама акцыі «Wisla». Я ўжо не кажу аб распаўсюджваньні польскай культуры, мастацтва на Усход, на землі, якія больш за 700 гадоў зьвязаны з нашай дзяржаўнасьцю і, натуральна, спрыяльна ставяцца да польскай культуры. На жаль, мы забыліся, што пасьля 700-гадовай мілітарыскай экспансіі на Усходзе знаходзімся зараз на нулі, і калі нешта нам пакінулі, то цяпер аб гэтым можна казаць толькі ў шырокім сэнсе разуменьня культуры.

Цяпер мы можам ігнараваць Беларусь ці Украіну як самастойныя суб 'екты, але яны абыйдуцца й без нас. Гэты варыянт быў вядомы яшчэ 350 гадоў таму, ён скончыўся Пераяслаў ем (адданьнем напачатку часткі, а потым і ўсёй Украіны ўзмоцненай Расеі і, у выніку, падзеламі Рэчы Паспалітай). Прысмак Пераслаўя адчуваўся ў словах Філарэта, калі з поўным пераканаьнем ён казаў мне аб патрыярхальным узначаленьні Масквой Беларусі. Гэтая сытуацыя не ўзьнікае з любові беларусаў да расейцаў. Справакаваў яе польскі Касьцёл, а польскі сэнат, сэйм і ўрад пусьцілі гэта на самацёк. Нешта там рабілася астатнім часам і дакладна нешта з гэтага маем. Але не больш.

Павел Ясеніца пісаў, што вялікім, на жаль, ня зьдзейсьненым прызначэньнем Рэчы Паспалітай была вольная, моцная эканамічна й мілітарна Украіна. Ведаў, што казаў: два дружалюбныя 40-мільённыя народы ў цэнтры Эўропы без праблемаў зьвялі б такога Сталіна да памераў Чаушэску ў помесі з цэзарам Бакасам. У такой палітычнай канфігурацыі рэвалюцыя магла б сягнуць толькі Сібіры, Манголіі. Сёньня Беларусь і Украіна сталі свабоднымі краінамі. На літасьць Боску, нам ня трэба рабіць выгляд, што мы гэтага не заўважаем. Падтрымаем іхнюю свабоду не для іх, а перш за ўсё для саміх сябе.

Рычард Сурмач, журналіст (адзін з нямногіх людзей), які ведае, што рэальна адбываецца на Сьлёнзку Апольскім, выслухаўшы мой аповяд па вяртаньні з Менску, сказаў:

— На Сьлёнзку маем сытуацыю такую самую. Нюанс заключаецца ў тым, што мы знаходзімся ў ролі беларусаў, а немцы на мейсцы палякаў. Ці Касьцёл гэтага не заўважае?

**Адам КУЛІК.**
«Kultura», Парыж.
(Пераклаў М. КАРНЕВІЧ).

## Добра, што ня зьелі

Як паведаміла агенцтва «Эльта», за дзевяць месяцаў бягучага году дзяржаўныя інспэкцыі па гігіене ў гарадах і раёнах Летувы забаранілі рэалізацыю амаль 800 тон харчовых прадуктаў з-за дрэннай якасьці.

Спэцыялісты ў вобласьці гігіены сьцьвярджаюць, што ў сьпісе найбольш забруджаных прадуктаў харчаваньня — вараныя каўбасы, субпрадукты, кандытарскія вырабы.

**А. Д.**





# ГІСТОРЫЯ І СУЧАСНАСЬЦЬ

# Ультыматум беларускіх партызанаў Язэпу Пілсудскаму

Яшчэ падчас Рызскіх польска-савецкіх перамоваў 1921 г. Беларуская Партыя Сацыялістаў-Рэвалюцыянэраў (БПС-Р) пачала рыхтаваць паўстаньне ў абодвух частках Беларусі. Аднак у Савецкай Беларусі паўстаньне было сарванае масавымі арыштамі сяброў БПС-Р чэкістамі. Па гэтай прычыне было вырашана ўзьняць паўстаньне толькі ў Заходняй Беларусі. Летам 1921 года быў створаны Цэнтральны Беларускі Паўстанцкі Камітэт на чале з У. Пракулевічам — лідэрам Рады Случчыны падчас Слуцкага паўстаньня. Галоўны штаб беларускіх партызанаў узначаліў падпалкоўнік Усьпенскі.

25 верасьня 1921 года ў чэшскай Празе пачалася нарада беларускіх палітычных партыяў, якая назвала пастановы рызскага тракту акупацыяй Беларусі й прыняла адозву з заклікам да барацьбы за еднасьць і незалежнасьць Бацькаўшчыны. Урад БНР, які знаходзіўся ў Коўне, атрымоўваючы фінансавую дапамогу ад летувіскага ўраду, пачаў умацоўваць і пашыраць партызанскі рух у Заходняй Беларусі. Уся яе тэрыторыя была падзеленая на чатыры паўстанцкія акругі з цэнтральным падпарадкаваньнем. Здавалася, што посьпех паўстаньня ўжо забясьпечаны, але...

Польская дэфэнзыва заслала ў падпольле свайго агента Эдуарда Лянкевіча, жыхара мястэчка Саколка, і па яго даносу на пачатку 1922 года задушыла падпольныя структуры масавымі арыштамі. Былі арыштаваныя й кіраўнікі Беластоцкага й Гарадзенскага раёнаў Вера Маслоўская й Адам Трыпуз. Але на волі засталіся партызанцкія каманьдзіры: Скамарох (Гэрман Шыманюк), Хмара (Вячаслаў Разумовіч), Чорт, Пугач і іншыя. Імі й быў складзены й перасланы Язэпу Пілсудзкаму «Ультыматум», тэкст якога падаецца ў адпаведнасьці з мовою арыгіналу:

«УЛЬТЫМАТУМ пасланы Паўстанцкім штабам Начальніку Польскай Дзяржавы Пілсудскаму.

«Начальніку Польскай Дзяржавы Пілсудскаму ў Варшаве. Копія Старшыне Лігі Нацый у Жэневе. Ад акружнога атамана беларускіх партызанаў грамадзяніна Гэрмана Скамароха. Беларусь. Чынны Канспіратыўны Штаб. УЛЬТЫМАТЫЎНЫЯ ВЫМАГАНЬНЯ.

З прычыны разкрыцьця польскімі ўладамі нашай беларускай вайсковай арганізацыі, якая паставіла сабе мэтай высвабадзіць Беларусь ад векавога гвалту і ўціску і цяперашняй акупацыі,— значэ ня сакрат, што зьяўляемся ворагамі польскай акупацыйнай ўлады ў Беларускім краю, але нічуць ня ворагамі польскай улады ў Варшаве...

Мы ўпаўнамочаны ад пятнаццаці тысяч партызанаў і ўсяго сялянства паветаў Беластоцкага, Бельскага, Берасьт-Літоўскага, Ваўкавыскага, Пружанскага і др. зьвярнуцца да Вас, Пан Пілсудскі, і, праз Вас, да ўсяго Польскага Народу аб прызнаньні нашых ніжэй пісаных вымаганьняў, а найменна:

1. У імя справядлівых чалавечых правоў адмовіцца ад прэтэнзій на Беларусь і прызнаць яе права на самаазначаньня як нацыі.

2. Неадложна спыніць жорсткія рэпрэсіі ў стасунку да ўсіх беларусаў, а также перастаць апечатываць праваслаўныя храмы, арэшты сьвяшчэннікаў, обыскі, біцьцё палітычных дзеячоў у вашых турмах і прызнаць недатычнасьць да ўсяго беларускага.

3. Неадложна звольніць з турмаў усіх арэштаваных у пэрыяд ад 1-га студзеня 1922 г. па 2-е красавіка, г. зн. па дату атрыманьня гэтага.

4. Неадложна спыніць высеканьне лясоў, а также перастаць вывазіць розныя матэрыялы, як і машыны, лесапільні, желязнадарожную маёмасьць і інш.

5. Неадложна прыгатаваць для эвакуацыі польскія вайсковыя часткі, жандарскія атрады, сыскныя аддзелы і паліцыю.

6. Дзяржаўныя ўстановы і іх маёмасць павінны быць поўнасьцю перададзены, а также і народныя банкі Беларускага краю, як ўласнасьць Беларускага Народу.

7. Неадложна склікаць мешаную Камісыю для перадачы ўсіх спраў і рашэння пільных пытаньняў.

Калі вышэй пісаныя вымаганьня ня будуць прызнаны Польскім Урадам і Польскім Народам, а яшчэ больш пойдуць рэпрэсіі, арэшты і розныя праследаваньня на беларускі Народ, то мы наўсуслыш заяўляемо, што за вынікі, якія яны ні станацца, мы не адпаведаем.

Мы ня хочам пагражаць Вам, а папераджаем, што не прызнаньне нашых справядлівых дамаганьняў пацягне за сабой страшныя вынікі. Мы прымусім загаварыць аб сабе ўвесь сьвет. Мы прыймем самыя страшныя і самыя зьніштажаючыя способы і дзеля таго, што з рэгулярнай арміяй змагацца нам цяжка ў адкрытай бітве, то мы застасуем наша адкрыцьцё...

Вы закрычыце аб нашым зьверстве і негуманнасьці, але мы лапатнікі-селяне выдуманых зьдзекаў ня ведаем, а зробім тое, што мы ўзналі і што нашы рады забаспечаць і вас загубіць... Тады вы ацэніця нашы галовы даражэй, чым па 50.000 мар., як гэта цэніця цяпер.

Вы пастараецеся арэштаваць ня толькі нашых жон, вы арэштуеця старцаў: бацькоў, матак і многа другіх нашых братоў і вы выдумаеця яшчэ больш здумна гвалтаваць заключоных, ня тое што выламываць рукі, заганяць пад пазнокці шпількі, плечы кусаць і інш., але яшчэ лепш і мастацка мучыць, ды ўсё гэта не паратуе вас ад біча помсты.

Мы верым, што дабьемся вызваленьня і што сваёй перамогай ўмацуем наш нацыянальны сьцяг над нашай свабоднай Народнай Дэмакратычнай Беларускай Рэспублікай.

Мы верым, што ўся здаровадумучая Польшча і ўвесь сьвет на нашай старане справядлівасьці, дык мы будзем чакаць мірнага развязаньня нашых вымаганьняў, якімі Вы нас уцешыцця праз польскую, расійскую і замежную прэсу. Апошні дзень тэрміну дзевятнадцатага красавіка ст. стылю. Калі ж прэса будзе маўчаць, гэта будзе знакам змаганьня за вызваленьне Беларускага Народу з пад польскага гвалту.

Да Вас, Пане Старшыня Лігі Нацый, звертаемося мы, паняволенныя беларусы, і просім не дапусьціць далейшых гвалтаў над намі, мы вымагаем нашай незалежнасьці і нашай свабоды.

Атаман гарадзеншчыны Г. Скамарох,
Вып. аб. Начальніка Штабу Беларускіх партызанаў Палкоўнік (подпісь).
Ад 'ютант (подпісь) 30 сакавіка 1922 г.».

(«Беларускі сьцяг», № 2 за 1922 г., Б. 34-35).

Аднак Пілсудзкі маўчаў... Тады партызаны йшчэ раз напамінаюць яму аб ультыматуме, на гэты раз тэлеграмаю:

«Варшава. Начальніку Польскай Дзяржавы пану Пілсудскаму. Гэтым пытаем Вас, пане Пілсудскі, чым тлумачыцца не атрыманьне адпоpředзі на наш ультыматум, пасланый 30 сакавіка н. ст. бягучага году. Дзеля гэтага яшчэ раз напамінаем, аб нашым ультыматуме, каторы кажэ: каб польская ўлада прызнала беларускую дзяржаву, як такую і прыняла сваю акупацыйную ўладу з нашага краю. У здарэньні адмовы, або не жаданьня адпаведаць на нашы вымаганьні, папераджаем, што прыйме пагалоўнае зьніштажэньне паліцыі, жандармэрыі, польскай арміі і ўсёй шляхты...

Гэта тэлеграма выслана партызанамі са ст. Чэхі, якую былі часова заняўшы паўстанцы».

(там жа, Б. 35)

Але й на гэты раз чакаць адказу было дарэмна. Рэпрэсіі польскай акупацыйнай ўлады не спыніліся, а, наадварот, узмацніліся. Відаць, палякі ня верылі, што беларусы здолеюць арганізаваць масавы супраціў акупантам.

У красавіку 1922 года па ўсёй тэрыторыі Гарадзеншчыны, а пераважна ў заходняй яе частцы, пачаліся чыннасьці беларускіх партызанаў. У ліпені яны дасягнулі свайго апагею.

І апошні дакумэнт — «Ліст з Лідчыны», зьмешчаны ў часапісе «Беларускі сьцяг», № 4, жнівень—верасень 1922 г.:

«Беларускі рух расьце і пухне, як на дражжах. Сьвядомасьць нацыянальная расьце буйным тэмпам. Страшныя прасьледваньні з боку польскіх улад толькі ўзмацняюць стыхію народнага гневу. У іншых мясцох лес абвешчаецца ўласнасьцю народу. Адміністрацыя маёнткаў на сьмерць запалохана. Наведваюцца партызаны. Частка паноў уцякла, а ў другія маёнткі наслалі салдатаў дзеля абароны. Былі выпадкі бурных спатканьняў народу з панамі і адміністрацыяй (в. Купры). Дэзэртырства ў арміі нябывалае. Уцякаюць з-за Варшавы, Сувалак, Горадні, Аўгустова, Нова-Вілейска і іншых месц. Частка хаваецца ў доме, а значныя лічбы ў лесе. У павеце апавешчана ваеннаасаднае палажэньне. Гуляюць атрады карацельныя і па барацьбе з дэзэртырствам, таксама палявая жандармэрыя. Многа арыштаваных. Каб не вядомыя Вам перашкоды, мы былі б сьведкамі здарэньняў шырокага маштабу, а можа і гістарычных.

З пашанаю Ш-віч».

Кіраўніцтва беларускіх партызанаў адвяло частку сваіх сілаў у Летуву, дзе быў створаны Беларускі Стралецкі Саюз. Застаўшыся партызанскія аддзелы ў хуткім часе падпалі пад уплыў камуністаў. Гэта адбылося пасьля зьліцьця левазэраўскай Беларускай Рэвалюцыйнай Арганізацыі з кампартыяй, а таксама перамоваў паміж беларускімі сацыялістычнымі партыямі й бальшавікамі ў Менску ў сакавіку 1923 года.

А што здарылася з аўтарам «Ультыматуму» Гэрманам Шыманюком (Скамарохам)? Ён у хуткім часе апынуўся ў БССР, дзе, відаць, неўзабаве быў ліквідаваны гэпэўшнікамі.

**Сяргей ЁРШ.**
**г. Слонім.**

# На чужыне добра, але часам на сэрцы туга

Некалі Мікола Дзікавіцкі са сваім бацькам — пінскім шляхцічам Рыгорам Дзікавіцкім спорыў, мауляў: «Ты, тата, не разумееш Савецкай улады і таму супраць яе». Але, трапіўшы на вайсковую службу ў Эстонію, нечакана пераменіў свае погляды. Пасьля службы ў войску і зусім не вярнуўся дадому, застаўшыся назаўжды ў Эстоніі. Сёлета на Дзяды я сустрэў яго на могілках ля магілаў бацькоў.

— Спадар Мікола, столькі год вас ня было ў родных мясьцінах і вось такая сустрэча!..

— Ведаеце, я неяк адчуў патрэбу на гэтыя сьвяты прыехаць сюды. Раней было як? Сьвяткаваліся Савецкія сьвяты, а я па сваіх пераканьнях даўно стаў антыкамуністам. Таму, калі ўсё ўрэшце-рэшт стала на свае месцы, я й прыехаў да дому. На жаль, спазьніўся на 13 гадоў і ня змог перапрасіць бацьку за юнацкія памылкі.

— Як жа пачуваеце сябе на чужыне?

— Эстонія мне не чужына. Яна даўно стала маёй Радзімай. І ня толькі таму, што мая жонка эстонка па паходжаньню. Проста, жывучы сярод эстонцаў, я пранікся іх праблемамі, іх сьветапоглядамі. Мне таксама, як ігэтаму невялічкаму народу, захацелася жыць вольна, самому вызначаць свой лёс. Толькі сярод эстонцаў я нарэшце па-сапраўднаму зразумеў зьмест маіх і бацькавых спрэчак. Бацька раней, чым я, зразумеў усе выгоды «сьветлага» калгасна-камуністычнага жыцьця, бо ў яго аднялі тое, на чым ён стаяў,— зямлю, гаспадарку, магчымасьць пачуваць сябе годна. Зараз, калі асэнсоўваю бацькавыя перасьцярогі, разумею.— А ён ўжо тады гэта адчуў,— што да густу расейскаму простаму люду, аніяк непадыходзіць пінскаму шляхцічу. Памятаю, як ён казаў мне, што малыя народы ствараюць культуру вялікага народа, які, як крывасмок, высмоктвае ўсё лепшае з іх. Цяпер мне зразумела, каго бацька меў на ўвазе і чаму ён не прыняў Савецкую ўладу, бо яна таксама была скіравана на квітненьне адной мовы, адной культуры, адной, нарэшце, веры ў Бога, і ўсё гэта робіцца на крыўду іншых народаў.

— Вы згадваеце пра еднасьць эстонцаў ў барадзьбе за права чалавекам звацца, а ў той жа час тэлебачаньне, радыё, газэты пішуць зусім іншае?

— Тое, што пішуць афіцыйныя сродкі інфармацыі, няхай застанецца на іх сумленьні. Я скажу наступнае: ніхто ў Эстоніі не прыціскае іншыя народы. Проста ў гэтай краіне прымаюцца такія законы, якія па сваму зьместу вымагаюць ад нацыянальных меньшасьцяў веданьня эстонаскай мовы, гісторыі, культуры, традыцый. Таксама яны вымагаюць з павагай ставіцца да ўсяго дзяржаўнага-эстонскага. На мой погляд, так і павінна быць. Проста тыя, хто дагэтуль мроіць імпэрскімі мерамі, няможа пагадзіцца з лягічным ходам гісторыі. А прэса, ня вывучыўшы пытаньня, далдоніць пра дыскрымінацыю рускамоўнага насельніцтва. Дарэчы, гэтым займаюцца толькі ў Маскве, ды магчыма ў роднай сувэрэннай Беларусі.

— Скажыце, як да ўсяго, што дзеецца ў Эстоніі, ставіцца беларуская дыяспара?

— Няма адзінага пункту погляду. Ёсьць тыя, хто за Саюз — гэта ў большасьці вайскоўцы, выхадцы з Беларусі. Але ёсьць і тыя, каму дзяржаўнасьць Эстоніі неабыякавая. Я асабіста адношуся да іх.

— А як да такіх людзей, як вы, адносяцца самі эстонцы?

— З павагай, бо я сам працую 30 год на заводзе «Калеў» і заўжды адчуваю да сябе павагу ад эстонцаў, бо я прыняў іх мову, культуру, не абразіў словам тое, што для іх сьвятое. Калі так будуць рабіць і астатнія беларусы Эстоніі, то і яны адчуюць тут сябе як дома. Хоць, праўда, калі-некалі прыходзіць на сэрца туга па Бацькаўшчыне.

**Занатаваў Г. АСТРОЎСКІ.**

 







# ПАДАРОЖЖЫ

Алесь АСТРАЎЦОЎ

# На карнавал у каралеўскую краіну, дзе па палях расьце ячмень

## ЧАСТКА ДЗЯСЯТАЯ: «КАПЭНГАГЭН»

**1. Горад зялёных дахаў**

Гэта кідаецца ў вочы імгненна: спрэс пакрытыя меднай бляхай старыя будынкі пад уплывам салёнага марскога паветра за сотні год так пазелянелі, што такога ж колеру стала нават дахоўка й цэгла верхніх паверхаў. Гэта — сваеасаблівы сымболь горада. Нават на сучасных будынках дзе-нідзе запускаюць зялёнай фарбай фрыз па фасадзе альбо фарбуюць такім чынам увесь дах.

**2. Помнікі**

Шматлікія помнікі маюць, на першы погляд, такі ж няпрывабны выгляд: зялёныя насы, быццам аблітыя кіслатой твары й тулавы. Але потым пачынаеш разумець, што яны не нясуць «выхаваўчую й патрыятычную» функцыі, а служаць антуражам пры стварэньні непаўторнага каларыту Капэнгагэна. І гэта меркаваньне досыць нябезпадстаўнае, бо на мае шматлікія пытаньні: «А хто гэта там, на калі?», Міхель здолеў адказаць толькі адзін раз: «Гэта стваральнік першага Унівэрсітэту». Усе астатнія разы ён толькі пацiскаў плячыма: «Так... Нейкі кароль». У прынцыпе ў данійскіх каралях сапраўды разабрацца вельмі цяжка, бо па традыцыі іх называлі толькі двума імёнамі — альбо Хрысьціян, альбо Фрэдэрык.

З усіх помнікаў бляск бронзы прабіваецца толькі на каленях у Ханса Хрысьціяна Андэрсэна — на іх усе турысты садзяць сваіх дзяцей, каб сфатаграфаваць.

**3. «Цівалі»**

Такую назву мае вялікі дзіцячы парк у цэнтры горада. Там ёсьць і сапраўдны ветразьнік, і кітайская пагада, і амэрыканскія горкі.

Ужо ў Менску, каля Траецкага прадмесьця, я аднойчы ўбачыў вялікі двухпавярховы аўтобус «Мэрсэдэс» з такой назвай. «Мабыць, турысты з Даніі,— падумаў я.— А ці не перадаць мне з кіроўцам ліст, каб хутчэй трапіў да сябра?». Калі я падышоў бліжэй, дык аказалася, што гэта аўтобус вядомай менскай хакейнай каманды з такім жа назовам.

**4. Ратуша**

Гэта — велізарнейшы будынак, які займае памеры цэлага кварталу, стылізаваны пад старажытны замак. Тут і зараз месьціцца гарадзкая ўправа, унутры — ахова. Але калі зайсьці ў фае, дык зьлева ёсьць невялікі пакойчык, дзе на прылаўках выкладзена ўся рэклямная інфармацыя пра тое, што ў гэтыя дні адбываецца ў горадзе, а таксама мапы-схэмы на розных мовах, уключна й польскай. Усё гэта — бязплатна. Калі матэр'ялы паступова разьбіраюцца турыстамі, дзяжурныя паліцыянты выносяць стосы новых.

**5. Вулічныя канцэрты**

Цэнтральная гандлёвая вуліца, як у любым нармальным горадзе — пешаходная. Але акрамя нязьлічоных крамаў, ейнаю адметнасьцю зьяўляецца прысутнасьць на кожным кроку саматужных музыкаў з расчыненымі футараламі. Тут былі й ужо знаёмыя нам лацінамэрыканскія індзейцы (дарэчы, і ня толькі тыя), і жанглёры-фокусьнікі, і старэнькія-старэнькія дзядкі. Яны пастаянна папіхалі адзін другога, чым выклікалі вясёлы сьмех у натоўпе. Нейкая дзяўчына пад гітару сьпявала цудоўным голасам лірычныя ангельскія песьні. Каля адной крамы на тратуары пастаянна сядзеў з гітарай і блюзавым гармонікам на шыі хлопец. Ён заўсёды выконваў самы сапраўдны блюз. У ягоным футарале ўвесь час было вельмі шмат грошаў. Як мне растлумачылі, ён проста іх пэрыядычна не даставаў адтуль, як робяць астатнія, дзеля таго, каб выклікаць больш жалю. Яму проста было на ўсё напляваць.

Ня было пастаяннага месца ў расейскіх гастралёраў, якія кожны раз разварочвалі сваю «свежевырабленную, величиной с избу» бас-балалайку й гармонь на новым месцы. Апранутыя яны былі ў кічовыя кашулі «а ля рос» з жоўтага атласу, пазычаныя, мабыць, у нейкім «доме культуры». Яны відавочна бывалі пасьля перапою, а таму «вакаліст» сіплым голасам цягнуў: «У той степи глухой помирал ямщик...»

**6. Сустрэчы**

Безумоўна, кожны, хто прыехаў у Капэнгагэн, наведае той раён, па якім шпацыравалі мы. Таму выпадковыя сустрэчы з менчукамі можна й ня лічыць нечым звышвыбітным.

Але бываюць такія дні, калі я й у Менску ні разу не сустракаю знаёмых.

**7. Жоўтыя кварталы**

Калі з цэнтру йсьці ў бок порту, трапляеш у кварталы сумна-аднолькавых двухпавярховых старых баракаў жоўтага колеру. Гэта — вынаходніцтва аднаго з каралёў. Стомлены скаргамі жыхароў горада на няўтаймаваны нораў маракоў, асабліва калі тыя толькі што вярталіся з плаваньня, ён загадаў пабудаваць дзеля ўх у раёне порта нешта накшталт рэзэрвацыі.

Вясёлае, мабыць, некалі было мястэчка.

**8. Вуліца «Чырвоных ліхтароў»**

Пасярод яе праходзіць прамы канал, які ўразаецца ў цэнтр горада. Тут і зараз прышвартаваныя шматлікія караблі, але ўжо назаўсёды. У іх месьцяцца кавярні, а ў адным старым параходзе — «Тэатр на хвалях». Паабапал каналу раней былі шматлкія вясёлыя месцы, дзе раней пакідалі свой заробак маракі, вярнуўшыся з плаваньня. Але потым раён ачысьцілі й ператварылі ў адзін з самых прэстыжных і дарагіх у горадзе.

Сучасная ж вуліца «Чырвоных ліхтароў» месьціцца непадалёк ад вакзалу. Тут і спрытпыз-шоу, і шматлікія гатэльчыкі, да ўваходу ў якія праз тратуар пракладзены чырвоныя плястыкавыя дарожкі.

Наконт даступнасьці падобных устаноў можна меркаваць па шыкоўных машынах, якія прыпаркаваныя ўздоўж усёй вуліцы.

**9. Пакгаўзы**

Ад старога гандлёвага порту засталіся толькі вялізарныя шматпавярховыя будынкі чырвонай цэглы — былыя пакгаўзы. Зараз на гэтай узьбярэжнай швартуюцца толькі турыстычныя альбо рэйсавыя пасажырскія караблі. Каб ня зносіць змрочныя будынкі, якія надаюць гораду непаўторны каларыт, вырашылі іх перарабіць. Унутры, пакінуўшы некранутым фасад, робіцца шыкоўны інтэр'ер. У такіх будынках зараз — кватэры для вельмі багатых людзей, а таксама два гатэлі — «Пакгаўз» і «Адмірал».

Данійцы вельмі любяць мора, а таму мець дом ці кватэру з выглядам на яго — для кожнага мара жыцьця.

**10. Палац каралевы**

Лішне казаць, што ён месьціцца на ўзьбярэжнай. У пляне палац падобны на кола з чатырма арачнымі праездамі, таму ў двары — звычайнае скрыжаваньне гарадзкіх вуліц. Каля кожнага ўваходу стаіць чырвоны будан, побач з якім — урачыстая варта. Зьмена варты адбываецца кожную гадзіну, што зьбірае шмат турыстаў. Жаўнэры апранутыя ў шыкоўныя чорныя «клёшы», чырвоныя кіцелі з залатымі галунамі, на галовах — высачэзныя футровыя шапкі. На плячы — карабін са штыхом.

Міхель крывіцца: маўляў, у Празе ўрачыстая варта — гэта тэатр, крыху з гумарам, а ў нас — на поўным сур'ёзе. Але я б так не сказаў. Тым ня менш служба тут лічыцца вельмі ганаровай. Данійцы вельмі любяць сваю каралеву. Трэцьці тост на любым застольлі — заўсёды за яе.

**11. Кастэльлет**

Побач з агульнаапрызнаным сымболем горада — бронзавай Русалачкай, месьціцца бастыённая фартэцыя з водным равом і старажытнымі пушкамі на брудсвэры. Мне, натуральна, захацелася туды трапіць, і мы прайшлі праз даўгі драўляны мост і паўз каменную вежу-браму. Насустрач нам ішоў жаўнер з карабінам і вялікай мэталёвай бляхай на грудзях з надпісам «Кастэльлет»! Я са зьдзіўленьнем разглядаў ягонае ўпрыгожваньне, якое прыгадала форму нямецкай палявой жандармэрыі часоў другой сусьветнае вайны. Хлопец засмучона пасьміхнуўся.

Я падумаў, што гэта таксама нешта накшталт «ганаровай варты». Але не, на тэрыторыі былой фартэцыі месьціцца данійскі КДБ. Трапіўшы ўнутр, мы з Міхелем крыху развесяліліся ад недарэчнасьці сытуацыі й вырашылі, каб такая магчымасьць ня была марнай, сабраць для мяне «агэнтурныя зьвесткі». Узброенасьць камітэту аказалася невялікай — усяго тры старых бронзавых гарматы таксама атрутна-зялёнага колеру, адлітых яшчэ ў часы праўленьня караля Фрэдэрыка VII. Прайшоўшы побач са змрочнымі будынкамі з закратаванымі вокнамі, дзе ў двары стаялі службовыя машыны, мы пасьпяхова выйшлі праз іншую браму, мінуючы пост, абсталяваны відэаманіторамі.

**12. Хрысьціянія**

Гэта, мабыць, самы старажытны раён горада. Пасьля вайны тут месьцілася, здаецца, амэрыканская ваенна-марская база, якую зьліквідавалі ў шасьцідзесятыя гады. Некаторы час будынкі былых казармаў і штабоў прастаялі пустымі, а потым у іх пачалі сяліцца хіпі. Гэта зусім не задавальняла ўлады, а таму на працягу доўгіх год тут ішла пастаянная вайна з паліцыяй. Даходзіла да сапраўдных пабоішчаў. І хаця з пачатку васьмідзесятых гадоў муніцыпалітэт пайшоў на кампраміс, раён легалізавалі, хіпі пачалі плаціць падаткі ў гарадзкі бюджэт, тым ня менш ён і зараз застаецца рассаднікам наркаманіі й таму падобных зьяваў.

Аб набліжэньні да Хрысьціяніі гавораць шматлкія надпісы, па-майстэрску выкананыя на сьценах дамоў прылягаючых кварталаў. Нас папярэдзілі, што лепш не фатаграфаваць, бо могуць пабіць і фотаапарат, і твар, а калі раптам будуць нейкія непаразуменьні з паліцыяй, дык застаецца толькі ўцякаць. На паліцыю мы натыкнуліся адразу й зразумелі папярэджаньне. Гэта быў патруль з шасьцёх спэцназаўцаў, у касках, камбінэзонах, да зубоў узброеных. У кожнага на баку вісеў вялізарны газавы балён з распыльнікам, памерамі з аўтамабільны гасільнік. Такі паліцыянт сам можа разагнаць цэлы натоўп. Гітарыст з «Мроі», які першым натыкнуўся на іх, спытаўся ў іх, дзе тут прыбіральня. Яны зарагаталі: «Дзе хочаш, там і прыбіральня!» І тым ня менш, пры ўсёй пагрозьлівасьці выгляду, твары ў іх былі добразычлівыя.

Паліцыю можна зразумець. На сьценах дамоў сустракаліся надпісы фарбапультам: «Хэш — 30 крон». І ня толькі надпісы. Большасьць жыхароў сапраўды ў жудасна накураным стане. Тут ёсьць і старая вудстакская гвардыя — тыя, каму ўжо пад шэсьцьдзесят, і зялёныя маладзёны. Жывуць яны ў жабрацкіх, у параўнаньні з агульным дабрабытам, умовах. Адзіная азнака дабрабыту — японскія спадарожнікавыя антэны на дахах. Ёсьць фірмовая крама па продажы ровараў «Хрысьціянія», якія збіраюць тут жа самі хіпі, некалькі задымленых хэшам бараў і рэстарацыя. Сапраўдныя гаспадары — вялізныя сабакі невядомай пароды, якія нахабна цягаюцца паўсюль, ня выключаючы й рэстарацыю, і амаль без перапынку брэшуць. Натуральна, што паўсюль усё расьпісана. Надпісы можна сустрэць на любой мове, акрамя расейскай.

**13. Разьвітаньне**

У апошні вечар мы крыху затрымаліся ў гасьцях у нашай знаёмай Сінэ, а таму да парому прыйшлі толькі за сорак хвілінаў да адплыцьця. Нас ўжо чакалі Ёна Якабсэн і Біргіт Мадсэн, якія прыехалі на машыне й падвезьлі нашыя рэчы.

Мы бяз клопату ўзялі квіткі, а потым доўга разьвітваліся. Ёна фатаграфавала ўсіх сваіх «Кодакам». Кожнаму, у каго ёсьць дзеці, яны перадалі падарункі, далі нам і ежы на дарогу, усе — і яны, і мы — былі расчуленыя й расхваляваны. Потым мы бязтурботна прайшлі пашпартны кантроль. Ніякага кантролю на самой справе ня было, нават сьвятло не гарэла. У маім пашпарце дагэтуль красуе штэмпсель: «Уезд. Гавань Капэнгагэна», як быццам я адтуль і ня выяжджаў...

Мы апошні раз памахалі адзін аднаму й падняліся па трапе. Прыйшлося чакаць, каб аплаціць каюты — каса пачынае працаваць толькі пасьля адплыцьця. Разам з іншымі пасажырамі мы згрубіліся ў холе, і тут да нас падскочыла нешта вусатае, кучаравае, у бейсцы з надпісам «U SA»: «Ребята, вы откуда? Из Москвы? На улицах лабали? А Колю из Тамбова не видели?»

**14. Песьня**

Калі я падымаўся на верхнюю палубу, у мазгах навязьліва гучала песьня Шаўчука: «Еду я на Родину...»

Я ўбачыў, як ад'яжджаў блакітны «Форд» Ёны. Калі карабель павольна пачаў рухацца да выхаду ў адкрытае мора, я дастаў з кішэні апошнюю мэталёвую крону й кінуў яе ў ваду.



На вуліцах Вільні.
Фатаграфаваў А. УЛАДАСЕВІЧ.

 

